Беларуская газета

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...
Я.КУПАЛА

sumezhzha

# СУМЕЖЖА



№ 1 (101) Заснавана ў 1991 годзе. студзень 2001 г.

Дажыліся



## КУДЫ ЎЖО ДАЛЕЙ?

Немагчыма без дрыжыкаў глядзець, што робіцца ў фірменнай краме Пастаўскага мясакаміната, калі там па талонах абслугоўваюць пенсіянераў-ільготнікаў. Гадзінамі давяцца старыя нядужыя людзі ўнутры памяшкання і на вуліцы ў доўгай чарзе (месца ў чарзе займаюць з вечара). Для многіх стала радасцю жыцця хоць разок на месяц купіць і паспробаваць мяса ці кавалак каўбасы. У адзін з дзён у таўкучцы пакрыўдзілі, адтаўкнуўшы ад прылаўка бабульку-інваліда. Прыйшлося ёй са слязьмі прасіць заступіцца у дырэктара мясакамбіната... Як вядома, па рэспубліцы ізноў у снежні крыху падвысіліся памеры працоўных пенсій. Мінімальная па ўзросту разам з устаноўленай урадам даплаты будзе састаўляць 20 тысяч 837 рублёў.

Падобная сума зараз не можа нікому забяспечыць нядрэннае існаванне. Хаця столькі зарабляе пачынаючы ўрач, настаўнік. На многіх прадпрыемствах Пастаўшчыны, такіх як кансервавы завод, завод ЖБВ і дрэваапрацоўчы камбінат у гарпасёлку Варапаева, за прастой і такіх грошай не плацяць. У большасці калгасаў і саўгасаў раёна доўга не выплочвалася зарплата за кастрычнік.

Не выходзіць з галавы гісторыя, расказаная маімі знаёмымі пенсіянерамі. Іх саміх да глыбіні душы ўразіла, як нядаўна нясмела пастукала ў дзверы дома заплаканая равесніца. Прыйшла яна за міласцінай, папрасіць крыху паесці. Прыходзіцца акрамя сябе клапаціцца аб унуку. Дачка рана пакінула гэты свет, зяць апынуўся ў калоніі. Катэгарычна адмовілася бабулька ад грошай, каб не падумалі аб ёй, як аб п'яніцы. Добрыя людзі, прайшоўшыя ў свой час сталінскія лагеры, адсыпалі незнаёмцы крыху крупаў і цукру... Прайшлі калядныя і навагоднія святы. Толькі наўрад ці яны прынеслі радасць і спакой для тысяч такіх вось абяздоленых суайчыннікаў.

*Язэп Бізунчык*

## ЧУМА СТАГОДДЗЯ НЕ АБМІНУЛА НАС

Прызнаемся, гэтую страшную навіну адразу паведамляць не сталі, каб не азмрочыць настрой чытачам на святы. Сёння ўсім трэба рэальна ўсвядоміць той факт, што ў апошні год прайшоўшага тысячагоддзя першы ВІЧ-інфіцыраваны СНІД-ам зарэгістраваны ў Паставах. Ёсць падазрэнне, што страшнай невылечнай хваробай у нашай мясцовасці заразіўся яшчэ адзін чалавек. Між тым, у іншых рэгіёнах краіны і нават вобласці сустрэліся з бядой сотні чалавек. Страшна робіцца, калі ведаеш, што летась на Віцебшчыне ад хворых мацярок нарадзілася шэсць немаўлят. Найбольш пацярпеў ад навалы стагоддзя ў мінулым годзе райцэнтр Гарадок, што паблізу абласнога цэнтра, дзе былі выяўлены адразу чатыры хворыя на СНІД. Сталася так, што менавіта сюды атрымаў днямі назначэнне на пасаду намесніка пракурора раёна былы пастаўчанін Андрэй Машніч, які плённа працаваў у мясцовай пракуратуры.



## ПРАВІНЦЫЙНЫЯ ХРОНІКІ

## ДРЭННА ГАНДЛЯРУ, КАЛІ ПАКУПНІК БЕДНЫ

Да апошняга часу выключна выдатныя адзнакі ставіліся калектыву Пастаўскага райспажыўаб'яднання, чыё імя было нават занесена на Рэспубліканскую Дошку гонару. І вось на гэтым фоне дысанансам прагучалі вынікі праверкі камісіяй дзяржкантролю кааператыўных гандлёвых кропак. Розныя парушэнні правілаў гандлю былі выяўлены ва ўсіх правераных 20 магазінах. Адначасова з рэалізацыі кантралёры знялі розных тавараў на 546 тыс. рублёў. Насцярожвае, што ва ўсіх правераных 13 крамах харчовых тавараў былі знойдзены прадукты з пратэрмінаванымі гарантыйнымі тэрмінамі захоўвання. Зрэшты, у людзей цяпер даходы маленькія, дзе купіць патрэбную рэч ёсць выбар. І варта самім праяўляць пільнасць, каб не купіць заляжалы тавар, або прадукт. З іншага боку кааператары ў пэўнай ступені рэабілітавалі сябе, нядрэнна арганізаваўшы шырокі продаж калядных і навагодніх падарункаў і прысмакаў.

## НА ЎСІХ ТАННАЙ ЕЖЫ НЕ ХОПІЦЬ

Зрабіць святочны стол у навагоднюю ноч яшчэ больш шыкоўным і разнастайным, як вядома, нядаўна атрымалі магчымасць жыхары райцэнтра. Паблізу рынка, аб чым "Сумежжа" паведаміла першай, адкрыўся магазін "Заазёрны" аднайменнай прываінай ясаперапрацоўчай фірмы. У першы дзень гандлю бралі яго ледзь не штурмам, бо ўсе жадалі пасля некалькіх гадзін стаяння ў чарзе набыць найбольш танныя субпрадукты – галовы, ногі, страўнікі і іншыя прадметы сабачай радасці. Пакупніку варта звярнуць увагу на гэту краму, бо ў адрозненне ад канкурэнтаў – каўбасных цэхаў вытворчага участка і райспажыўсаюза мясапрадукты ў "Заазёрным" выпрабляюць толькі са свежага ахаладжанага мяса. Іншая справа, што накарміць усіх таннымі прадуктамі ў прадпрыемства не хопіць магчымасцей. Наогул зараз гэта галіна ў Беларусі перажывае крызіс і спад вытворчасці, не вытрымлівае канкурэнцыі з расіянамі.

## ЗНАК БЯДЫ

Даўна ўжо не назіралася такой дрэннай сітуацыі, у якую трапіла ААТ "Пастаўскі малочны завод". Акрамя таго, што сутачныя закупкі сыравіны ўпалі ў параўнанні з летам разоў у пяць, пагрозліва пагоршылася сітуацыя з разлікамі. Напрыканцы года прадпрыемства завінавацілa пастаўшчыкам больш 100 млн. рублёў, з якіх больш 34 млн. не атрымалі за здадзенае малако вяскоўцы. Надта крыўдна было асобным вёскам, якія не атрымалі свае грошы за сырадой, забраны яшчэ ў кастрычніку. У бедах завадчан быццам вінаватыя калегі з Глыбоцкага малочна-кансервавага камбіната, якія не могуць вярнуць пастаўчанам доўг за малако на 80 млн. рублёў. Але ж дзяржава прымушала іх выконваць планы, рабіць масла для вялікі х гарадоў па фіксаваных заніжаных цэнах. У выніку камбінат панёс страты больш чым на 1 мільярд рублёў. Бяздарнае кіраўніцтва Беларусі заўсёды застаецца ў баку, а церпяць, як заўсёды, простыя людзі.

## ФОРМЫ НЕ ХАПАЕ, АЛЕ ГРАНІЦА НА ЗАМКУ

Не засталося незаўважаным, як грозна галоўнакамандуючы сочыць за станам боегатоўнасці беларускай арміі. Вось і напрыканцы года А.Лукашэнка супакоіў усіх, што нашы Узброеныя Сілы прыведзены ў ідэальнае палажэнне. Розныя дробязі ў разлік не браліся. Тым пастаўчанам, хто марыць аб ваеннай кар'еры, варта памятаць, што паўсядзённай формай адзення зараз забяспечаны толькі кожны чацвёрты беларускі афіцэр. А вось ваеннаслужачым-пагранічнікам з нашага гарадка прынёс радасць. У Лынтупах перад каталіцкімі калядамі здалі ў эксплуатацыю пагранічную заставу. Другую па ліку на прыбалтыйскім напрамку дзяржмяжы. Частку грошай на яе ўзвядзенне дала Расія, якая неяк бокам працягвае ставіць сябе да Еўропы. Цяпер у гэтым саюзе і мы з суседзямі-літоўцамі, з якімі ніколі не варагавалі, адгароджваемся мяжой, візавым рэжымам, добра яшчэ, што не калючым дротам.

## ГАЗ ВЫДЗЯЛЯЕЦЦА І НА КАРОВУ

Многіх на фінішы года засмуціла навіна пра павышэнне кошту спажыўцам за карыстанне газам да 1751 рубля за балон. Як і тое, што за дастаўку "звышнарматыўнага" балона трэба плаціць цяпер 5070 рублёў. Перакананыя, што большасць абанентаў "Паставырайгаза" нават не ведаюць гэтыя самыя нарматывы. Дык вось, на аднаго чалавека на год адпускаецца 5 балонаў. Калі ў сям'і пражываюць двое, ім выдзяляецца ўжо восем балонаў. Адпаведна на трох чалавек – 10, з чатырох і болей – 12 балонаў на год. Цікава, што канцэрн "Белпаліўгаз" летась зацвердзіў нормы расходу газу ў балонах для прыгатавання кармоў і падагра-вання вады для жывёлы. У разліку на адну карову адпускаецца адзін "дадатковы" балон, столькі ж – на коз і авечак, незалежна ад іх колькасці, а на свіней нават 4 балоны. Падставай для іх выдачы абанентам служаць даведкі з выканкама мясцовага савета аб наяўнасці хатняй жывёлы.

## АГОНЬ НЕ ДАРУЕ НЕАСЦЯРОЖНАСЦІ

Невычэрпным болем для родных і блізкіх стала нядаўняя гібель у згарэўшым жылым доме 35-гадовага жыхара вёскі Галбея. Двое дзяўчынак-вучаніц пачатковых класаў, як вядома, засталіся сіроткамі. Зноў прычынай трагедыі стала неасцярожнасць пры курэнні ў ложку. Зрэшты, на Пастаўшчыне летась гэта быў распаўсюджаны сумны факт, які, на жаль, паўтараўся зноў і зноў у розных кутках Віцебшчыны. Характэрна, што пры гэтым у нашай вобласці на чвэрць зменшылася колькасць пажараў. Але з-за людской абыякавасці да жыцця, ігнаравання элементарных правілаў уласнай бяспекі значна больш іх закончыліся трагічнымі вынікамі. Па інфармацыі па стану за 11 месяцаў у агні загінулі 182 жыхары вобласці, у тым ліку был ахвяры і з нашага раёна.

## ПАКЛАПАЦІЛІСЯ ПРА СЯБЕ

Цярпення, сіл і мудрасці цярпець і далей невыноснае жыццё шчыра пажадаў дарагім землякам двойчы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Пётр Розынка. Настрой у ягоных калег перад святамі быў неблагі. Перад тым, як разысціся на зімовыя канікулы, дэпутаты шчодра паклапаціліся аб сабе. Цяпер кожнаму з іх дазваляецца для чарнавой работы мець адразу восем памочнікаў. Раней верных людзей з такім статусам парламентарыі мелі пяць. Праўда, і цяпер большасць з такіх памочнікаў будзе працаваць не за грошы, а на грамадскіх пачатках. Але з пасведчаннем памочніка дэпутата так лёгка ўваходзіць у розныя службовыя кабінеты. Адзіным непрыемным момантам на першай кароткай сесіі стала "свіння", якую падклалі цяперашняму складу ніжняй палаты непрызнанага ў свеце парламента папярэднікі. Яны прынялі бюджэт з разлікамі павелічэння падатку на прыбытак прадпрыемстваў з 25 да 30 працэнтаў. Гэткага прэса не вытрымаюць нават лепшыя прадпрыемствы краіны, не гаворачы ўжо пра пастаўскія заводзікі з іх дапатопным абсталяваннем і тэхналогіямі.

***Падрыхтаваў Уладзімір Шык***

---

## Сучасныя анекдоты

Нарадзіўся маленькі беларус. На хрэсьбіны сабралася радня:

- Вырасце – стане вучоным. Вунь вочкі якія разумныя.
- Ну, не, ён генералам будзе. Бачыш, які баявы.
- Памыляецеся, ён будзе прэзідэнтам. Паглядзіце, увесь у гаўне, а як галоўку трымае!

Бачыць іншаземец : ляжыць беларус у баразне на бульбяным палетку.
- Ты што робіш?
- Чакаю, калі бульба вырасце.
- Ты б не ляжаў, а пасадзіў бы яшчэ. Пасля прадаў бы ўраджай і купіў новых сартоў насёнаў. Ізноў усё прадавай. Пасля наймай работнікаў. Яны б усё табе саджалі і ўбіралі. І вось тады б ты ляжаў бы і глядзеў, як бульба расце.
- А навошта мне ўсё гэта. Я і так ляжу.

Заканчваецца мітынг апазіцыі. Міліцыя "зачышчае" падазроных прахожых:
- Быў на мітынгу?
- Быў.
- У машыну.
- Быў на мітынгу?
- У машыну.
- А вы двое, былі на мітынгу?
- Не былі.
- Хутчэй на мітынг. І ў машыну.

## *ПАЛІТЫК З РЭГІЁНА*

**Лідар аб'яднаньня "Рэгіянальная Беларусь" Сямён Домаш разглядаецца як адзін з найбольш верагодных кандыдатаў ад дэмакратычных сіл на прадстаячых у гэтым годзе прэзідэнцкіх выбарах. Фармальна ён адказвае ўсім вылучаным Каардынацыйнай радай дэмакратычных сіл крытэрыям: мае нулявы адмоўны рэйтынг, беспартыйны, дэмакрат.**

***Кароткая біяграфічная даведка***

Домаш Сямён Мікалаевіч ***нарадзіўся 2 студзеня 1950 г. у вёсцы Тумашы Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Бабруйскі аўтатрактарны тэхнікум і Беларускі нстытут народнай гаспадаркі. З 1969г. працаваў механікам, галоўным інжынерам і дырэктарам Астравецкай аўтабазы №4, з 1977 г. – дырэктарам Гродзенскага аўтакамбінату № 1 З 1982 года - на партыйнай і савецкай рабоце: узначальваў Лідскі гарвыканкам і гарадскі Савет, затым Гродзенскі гарвыканкам і гарадскі Савет. У 1993 годзе стаў старшынёю Гродзенскага аблвыканкама і аблсавета. Са снежня 1994 да мая 1996 г. старшыня Гродзенскага аблсавета. Дэпутат Вярхоўнага Савета XII і XIII скліканняў. З мая 1996г. член Прэзідыума Вярхоўнага Савета. У Каардынацыйнай радзе дэмакратычных сіл прадстаўляе Гарадзенскую вобласьць. Прыкладам для сябе ў палітыцы лічыць Вітаўта Вялікага, які прывабіў яго*** **"стварэньнем моцнай беларускай дзяржавы, зь якой лічылася ўся Эўропа"** ***і Рональда Рэйгана, бо*** **"Рональд Рэйган – гэта ўменьне выклікаць у сваім народзе пачуцьцё гонару й годнасьці, гэта зьмякчэньне супрацьстаяньня ў сьвеце і стварэньне ўмоваў для пад'ёму эканомікі ў сваёй дзяржаве".** ***Кандыдат у майстры спорту па боксу. Жанаты, мае два сыны.***

# Свой ДОМаш

## *( гутарка ў рэдакцыі "Нашай Нівы")*



**- Беларусы – людзі працавітыя і гаспадарлівыя. Што, на Вашую думку, зрабіць, каб ад гэтага была рэальная карысьць? Каб людзі маглі добра жыць і не баяцца, што ня хопіць грошай да наступнага заробку?**

- Каб працавітасьць і гаспадарлівасьць беларусаў дала плён, трэба, каб дзяржава стварыла ўсім грамадзянам умовы для праяўленьня ініцыятывы. У першую чаргу – кіраўнікам прадпрыемстваў і спецыялістам. Сёньня яны працуюць па загадах зьверху і служаць толькі выканаўцамі гэтых загадаў, нярэдка нават бязглуздых. А калі хто праяўляе ініцыятыву, дык рызыкуе яшчэ і быць пакараным за яе. А самае галоўнае, што людзі не ведаюць, за што яны працуюць, яны ня знаюць нават кошту сваёй працы. Трэба зрабіць так, каб кожны чалавек ведаў, што чым больш і лепш ён зробіць, тым большы заробак атрымае.

**- Вёска корміць краіну. Але вяскоўцы гібеюць. Нават на Гарадзеншчыне, дзе добрыя ўраджаі, заробкі калгасьнікаў – маленькія. Што можна зрабіць для таго, каб вяскоўцы за добрую працу добра атрымлівалі?**

- Так, людзі гібеюць, а сельскагаспадарчыя прадпрыемствы ня маюць перспектывы. Па-першае, каб палепшыць сытуацыюў сельскай гаспадарцы, трэба пачаць з таго, каб даць кіраўнікам калгасаў свабоду дзеяньняў, дазволіць самім вырашаць, што, калі, як сеяць і калі зьбіраць ураджай. Самая вялікая памылка цяперашняй улады – у яе дыктаце. Лічу, што сельскагаспадарчыя прадпрыемствы павінны мець абавязак перад дзяржавай на падставе кантракту. У ім трэба вызначыць аб'ёмы прадукцыі якія яны павінны паставіць дзяржаве. Дзяржзаказ існуе і цяпер, але ж і на ўсю астатнюю прадукцыю "накладаецца лапа", усё трымаецца пад кантролем – каму, куды і колькі прадаць мяса ці другой прадукцыі. І па якім кошце. Апроч дзяржзаказу, усім астатнім гаспадаркі павінны распараджацца самі. Трэба, каб вяскоўцы свабодна рэалізоўвалі тое, што вырасьцілі, інакш яны ніколі ня будуць мець зацікаўленасьці ў сваёй працы.

Акрамя таго, цэны дзяржава трымае такія, што за кілаграм мяса гаспадарка атрымлівае менш, чым было выдаткавана, каб атрымаць гэтае мяса. Сытуацыя даволі абсурдная. Адсюль – рэнтабельнасьць адмоўная, прыбыткі маюць толькі некаторыя гаспадаркі. У гэтым прычына нізкіх заробкаў на вёсцы і іх нясвоечасовай выплаты. Кожны калгасьнік павінен дакладна ведаць: колькі яму належыцца грошай за вырашчаны ўраджай ці выробленую прадукцыю.

Па-другое, трэба неадкладна прыступаць да рэфармаваньня сельскай гаспадаркі. Ствараць новыя формы сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, дзе кожны працаўнік будзе асабіста зацікаўлены ў выніках сваёй дзейнасьці

**- Беларусам пры іхняй цягавітасьці не хапае сьмеласьці. Прыклад – апошняя Алімпіяда. Шмат здольных спартсмэнаў, прызавыя месцы, медалі. Але да золата не дацягваюць. Чаму так?**

- Сапраўды, беларусы на постсавецкай прасторы, мабыць, маюць найменш сьмеласьці ў будаўніцтве сваёй будучыні. Нашыя

людзі ня могуць адчуваць сябе свабоднымі, бо дзяржава цісьне на псыхіку людзей, стараецца падпарадкаваць іх, паставіць у залежнасьць ад сябе, кантраляваць іх. Праяўленьне ініцыятывы прыгнятаецца. Людзі робяцца пасыўнымі выканаўцамі патрабаваньняў улады, і іх дзейнасьць далей гэтага ня йдзе. Выканаў загад – добра, ня выканаў – буду шукаць апраўданьня.

Гэта вельмі яскрава праяўляецца і ў спорце. Нашыя спартсмэны паказваюць добрыя вынікі, але на канчатковым этапе ім чагосьці не стае. А не хапае самага галоўнага – веры ў свае дзеяньні. Веры ў тых, хто іх накіроўвае, ставіць задачы. З боку ўладаў усё робіцца не каб па-сапраўднаму зацікавіць людзей, а зноў жа – каб дамагчыся вынікаў ціскам, дыктатам. Адкуль тут будзе сьмеласьць, адкуль – высокія вынікі?

**- А як пераадолець страх? На пачатку 90-х казалі : людзі яшчэ па-ранейшаму баяцца. Цяпер кажуць : яны ўжо зноў баяцца. Адкуль бярэцца страх?**

- Людзі на сёньня настолькі запалоханы ўладай, што баяцца нават адзін аднаго. У іх псіхалягічны стрэс. Усе чыноўнікі баяцца, што іх праслухоўваюць, што хтосьці данясе аб тым, пра што яны гавораць. Страх прыгнятае, стрымлівае чалавека, гэта адназначна.

Будучая дэмакратычная дзяржава павінна стварыць такія адносіны паміж людзьмі і ўладай, каб гэты страх выкараніць, каб людзі не баяліся адзін аднаго. А галоўнае – каб не баяліся ўлады, нават не баяліся яе кантраляваць. А калі яны будуць давяраць уладзе, а ўлада – ім, яны змогуць лепей працаваць, будуць рабіцца заможнымі самі, і краіна адначасова будзе мацнець.

Улады сцвярджаюць, што ў грамадстве пасьля 1996 году дасягнута стабільнасьць. Але грамадзтва расколата. Адбылося разьмежаваньне па прынцыпе : ты за Лукашэнку ці супраць? За – значыцца, супраць усяго беларускага, супраць суверэнітэту, за далучэньне да Расеі. Як пераадолець раскол у грамадзтве?

Заявы аб сёньняшняй стабільнасьці ў грамадзтве – гэта прапагандысцкі трук. Насамрэч стабільнасьці ў нас няма. Грамадзтва падзелена. У людзей няма супольнай мэты, супольнай веры ў штосьці – у сваю дзяржаву, ува ўладу. Ёсьць падзел на нашых і нянашых, на чэсных і нячэсных. Лукашэнка робіць усё магчымае, каб павялічыць гэты падзел. Калі нешта не атрымліваецца, шукаюцца ворагі. То апазіцыя вінавата, то NATO, то журналісты. То нават міністры. Лукашэнка ніколі не бярэ на сябе адказнасьці, перакладае яе заўжды на чужыя плечы – на ўрадавых чыноўнікаў, на мясцовыя ўлады. Альбо вінаваты банкіры, прадпрымальнікі. Гэта адпрацаваны прыём: на фоне збядненьня насельніцтва паказваць на тых, хто зарабляе больш. Маўляў, банкіры, прадпрымальнікі – гэта тыя, хто смокча з насельніцтва кроў, выцягвае грошы. Гэта таксама робіцца, каб раскалоць народ. Ажыцьцяўляецца прынцып : лягчэй кіраваць людзьмі, калі яны падзелены. Людзі нават не хочуць ведаць, што багацьце краіны якраз і ствараюць прадпрымальнікі і банкіры. Карацей, раскол у грамадзтве інсьпіруецца ўладамі мэтанакіравана, ім гэта патрэбна.

Каб пераадолець гэты раскол, трэба проста зьмяніць стаўленьне да апанэнтаў, да апазыцыі. Ніводная ўлада, ніводная дзяржава ня могуць эфектыўна існаваць, калі ў іх няма тых, хто крытыкуе, паказвае недахопы. Людзі зь іншымі думкамі і падыходамі заўжды патрэбны, яны падштурхоўваюць да пошукаў у розных крытычных сытуацыях.

Яшчэ адзін прыклад – супрацьпастаўленьне людзей, якія змагаюцца за суверэнітэт і за незалежнасьць, тым, якія хочуць далучыцца да Расеі. Гэта таксама робіцца для таго, каб стварыць раскол.

**- Якой, на Ваш погляд, павінна быць замежная арыентацыя Беларусі? На якія каштоўнасьці варта зважаць?**

- Трэба ўлічваць як геаграфічнае, так і гістарычнае становішча Беларусі. Мы жывём паміж Расеяй і заходнімі краінамі, якія пайшлі па шляху сацыяльнага і тэхнічнага прагрэсу. Мы – на лініі падзелу, і нам трэба як супрацоўнічаць і сябраваць з Расеяй, так і старацца жыць разам з эўрапейскай супольнасьцю, быць у яе складзе.

На Захадзе сёньня значна вышэйшы тэхнічны і сацыяльны ўзровень. Расея можа дапамагчы нам энэргарэсурсамі, але для разьвіцьця новай тэхнікі і тэхналёгіі ў Расеі, на жаль, няма чаму павучыцца. Ім самім не хапае гэтага, яны самі на такім прыблізна ўзроўні, як мы, калі толькі не лічыць ваеннае прамысловасьці.

Усё нам патрэбнае ёсьць, аднак, на Захадзе, у Эўропе, зь імі і трэба шчыльней супрацоўнічаць. Для гэтага, перш за ўсё, мы павінны стаць адкрытымі, каб яны пажадалі і змаглі прыйсьці да нас са сваімі інвэстыцыямі. Каб можна было атрымаць ад іх новыя тэхналёгіі. Інакш мы ня зможам разьвівацца.

А з Расеяй, як я ўжо казаў, трэба сябраваць. Нашы народы даўно і цесна зьвязаны паміж сабою. Там, як вядома, жыве паўтара ці два мільёны беларусаў. Нідзе больш – у іншых краінах – такога няма. Гэта ўсё нашы людзі, нашы землякі. І не сябраваць з краінай, дзе столькі беларусаў, - проста нелягічна. Тым больш, што і ў Беларусі жыве шмат расейцаў.

Галоўнае, што мы павінны быць нейтральнай краінай. Не ўступаць, перадусім, у ніякія вайсковыя блёкі. Ня ўдзельнічаць у ваенным супрацьстаяньні. Патрэбны роўныя адносіны да ўсіх – і да Расеі, і да заходніх краін, і да ўсіх іншых нашых суседзяў.

**- Як Вы думаеце, што рабіць зь дзяржаўнай сымболікай, зь якой Беларусь стала незалежнай?**

- Наша дзяржава павінна мець сапраўдныя нацыянальныя сымбалі. На жаль, вялікая частка грамадзтва не разумее гістарычнай сымболікі, бо ня ведае гісторыі. Каб аднавіць гістарычную справядлівасьць нават у дзяржаўных сымбалях, мы павінны правесьці вялікую тлумачальную працу сярод насельніцтва. Адкрыць спачатку людзям вочы на гісторыю нашай дзяржавы і народу. Прыкласьці ўсе намаганьні, каб у кароткі тэрмін растлумачыць гістарычную праўду.

Калі людзі будуць у гэтым сэнсе дасьведчаныя, я перакананы, што сам народ запатрабуе вяртаньня гістарычнай беларускай сымболікі і ўжо ніколі не дазволіць яе зьмяніць. Самае разумнае – стварыць такую атмасфэру ў грамадзтве, каб людзі самі захацелі зьмяненьня сымболікі. Гэта няцяжка зрабіць, калі па-сапраўднаму паставіць прапаганду гістарычнай праўды, эфектыўна выкарыстаць увесь наш навуковы патэнцыял і сродкі масавай інфармацыі.

**- Як пераканаць расейскія ўладныя эліты, што перамога праціўніка Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах у Беларусі не пашкодзіць інтарэсам Расеі?**

- Гэта магчыма будзе тады, калі ўтворыцца як найшырэйшая кааліцыя апазіцыйных сілаў. У праграме адзінага кандыдата ад гэтай кааліцыі, які будзе вылучаны ёю на прэзідэнцкіх выбарах, павінна быць пераканаўча падкрэслена, што яго прыход да ўлады ні ў якім разе не пагоршыць адносінаў з Расеяй. Калі гэта будзе зроблена, я думаю, што на нас ня будуць тады глядзець з падазрэньнем. У праграме павінна быць прадугледжана і шчыльнае эканамічнае супрацоўніцтва з расейскім бокам. Напрыклад, павінны быць прапанаваны супольныя праграмы разьвіцьця энэргетыкі ды іншыя.

Важнае значэньне мае стварэньне супольных свабодных эканамічных зонаў. Цяперашнія ўлады ўжо зьвярнулі на гэта ўвагу, але яны ня здатныя ажыцьцявіць падобнае. Бо ў нас іншая, чымсьці ў Расеі эканоміка – каманднa-адміністрацыйная. Таму эфектыўнага супрацоўніцтва ў гэтых умовах дасягнуць немагчыма. Будучая дэмакратычная ўлада зможа рэальна нават паглыбіць, палепшыць эканамічныя сувязі з Расеяй, падвёўшы пад іх рынкавую аснову. У расейскіх уладаў, такім чынам, ня будзе падставаў, каб працівіцца дэмакратычнаму выбару беларусаў.

Каб пераканаць уладныя структуры Расеі, трэба папросту аддаць больш увагі добразычлівым адносінам з расейскім бокам. Лукашэнка ня мае манаполіі на сяброўства з Расеяй. Дэмакраты ставяцца аднолькава добра да ўсіх, апроч дыктатарскіх рэжымаў. У нас няма ніякіх падставаў псаваць з кімсьці адносіны, калі да нас будуць таксама ставіцца адпаведна : паважаць нашу краіну, наш суверэнітэт, нас – як народ..

**"Наша Ніва" № 49 ад 4. 12. 2000г.**

# ЗА ДЗЯРЖАВУ НЕ КРЫЎДНА, АЛЕ Ж ...

***Блізкасць дзяржаўнай мяжы адчуваецца ўжо на чыгуначнай станцыі Паставы. Ранейшы пасажырскі цягнік Віцебск – Вільнюс зараз штодзённа суправаджае пагранічны нарад і група мытнікаў. Дарэчы, састаў шэсць апошніх гадоў ідзе толькі да гарадскога пасёлка Лынтупы, дзе напярэдадні Новага года пачала дзейнічаць новая памежная застава.***



Літоўская тэрыторыя літаральна побач за агародам, адсюль меньш дзесятка км да суседняга райцэнтру Швянчоніс. У савецкія часы беларусы сотнямі зранку ездзілі працаваць да літоўцаў, пакуль іх не падзялілі мяжой і візавым рэжымам. Яшчэ больш складана зараз стала “чужынцу” нават апынуцца ў памежнай зоне з адкрыццём цэлага памежнага гарадка. У яго будаўніцтва вартасцю 920 млн. рублёў восемдзесят працэнтаў грошай уложана з бюджэта саюза Беларусі і Расіі.

Дзякуючы такому заказу пратрымалася на плаву пастаўская аграбудфірма “ Рассвет” (дзіўны сімбіёз тутэйшай МПМК-62 і аднаіменнага захудалага калгаса). Яна ж паставіла памежнікам мэблю. На прыбалтыйскім накірунку дзяржмяжы, што цікава, год назад у Верхнядзвінскім раёне была здадзеная застава, прыбліжаная да сучасных патрабаванняў.

Для людзей, якія служаць, і ў Лынтупах пастараліся стварыць чалавечыя ўмовы для службы і паўсядзённага жыцця. Па-першае, тут для сем’яў афіцэраў і прапаршчыкаў здадзеныя два чатырохкватэрныя дамы непадалёку ад казармы. Казарма больш падобная на будынак гатэльнага тыпу. Хлопцы ў зялёных фуражках будуць па-за службай жыць у блочных пакоях на трое ваеннаслужачых. Акрамя гэтага на заставе пабудаваны для пагранічнікаў медпункт, спартовая зала, памяшканні для адпачынку і заняткаў. Гаспадарчы блок уключае гаражы для чатырох аўтамабілей і матацыкла, кухню з падсобным памяшканнем, кацельню для ацяплення і гонар заставы – уласны сабачы пітомнік.

Днём і ноччу тут зараз нясуць службу амаль паўсотні пагранічнікаў. Зона іх адказнасці ўключае каля сарака кіламетраў мяжы з Літвой. Ніякіх кантрольна – следавых палос, назіральных вышак, якія беруць пачатак са сталінскіх часоў, не плануецца тут мець іх і ў будучым. Аднак, з гэтага не трэба рабіць выснову, што можна бесперашкодна пранікаць на сумежную тэрыторыю. З кожным годам рэжым зачыненай мяжы ўсё больш адчуваюць усе жыхары. Па за ажыўленых дараг усе праходы-праезды перакрытыя, па таемных сцяжынках могуць быць дазоры. Таксама на любым месцы аўташашы Паставы – Лынтупы ў вадзіцеля могуць запатрабаваць дакументы, якія тлумачаць прычыну знаходжання ў памежнай зоне.

Мясцовым жыхарам, каб наведацца да родных за “кардон”, трэба запасціся ў Пастаўскай памежнай камендатуры пропускам. Прасцей пенсіянерам ва ўзросце за 60 гадоў, якім пераход мяжы свабодны. Многія карыстаюцца гэтым, праносячы на продаж спіртовыя напоі і цыгарэты, каторыя ў суседзяў даражэй. З абоіх старон парушальнікаў памежнага рэжыма караюць бязлітасна, а адзін малады хлопец з Лынтупшчыны ўвогуле папаў за краты за неаднаразовае наведванне замежнай тэрыторыі.

Сама цырымонія адкрыцця новай памежнай заставы прайшло традыцыйна. Чырвоную лентачку перарэзалі віцэ-прэм’ер Леанід Козік і старшыня Дзяржкамітэта памежных войск Аляксандр Паўлоўскі. Да 2005 года, дарэчы, завяршыцца дэмаркацыя мяжы з Латвіяй і Літвой і пабудуюць яшчэ дзесяць такіх застаў.

***Уладзімір Шык.***




| Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Травень | Чэрвень |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 |
| 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 |
| 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 |
| 4 11 18 25 | 1 8 15 22 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 |
| 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 |
| 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 |
| **7 14 21 28** | **4 11 18 25** | **4 11 18 25** | **1 8 15 22 29** | **6 13 20 27** | **3 10 17 24** |

| Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Сьнежань |
|---|---|---|---|---|---|
| 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 |
| 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 |
| 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 |
| 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 |
| 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 |
| 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 |
| **1 8 15 22 29** | **5 12 19 26** | **2 9 16 23 30** | **7 14 21 28** | **4 11 18 25** | **2 9 16 23 30** |



# *АСНОЎНЫЯ РЭЛІГІЙНЫЯ СВЯТЫ Ў 2001 ГОДЗЕ*



**ПРАВАСЛАЎНЫЯ**

7 студзеня Нараджэнне Хрыстова (Каляды)
14 студзеня Абразанне Гасподне
19 студзеня Хрышчэнне Гасподне (Богаз'яўленне)
15 лютага (Грамніцы)
7 красавіка Благавешчанне Найсвяцейшай Багародзіцы
8 красавіка Уваход Гасподні ў Іерусалім
15 красавіка Вялікдзень (Пасха)
9 траўня (мая) – Радаўніца
24 траўня Узнясенне Гасподня
3 чэрвеня Пяцідзесятніца.Дзень Святой Тройцы
7 ліпеня Нараджэнне Св. Іаана Хрысціцеля
12 ліпеня Святых апосталаў Пятра і Паўла
19 жніўня Прэабражэнне Гасподне
28 жніўня Прачыстая
21 верасня Нараджэнне Найсвяцейшай Багародзіцы
27 верасня Узвіжанне Крыжа Гасподня
14 кастрычніка Пакроў Найсвяцейшай Багародзіцы
4 снежня Увядзенне ў Храм Найсвяцейшай Багародзіцы

**КАТАЛІЦКІЯ**

1 студзеня Багародзіцы
6 студзеня Богаз'яўленне
7 студзеня Хрышчэнне Панскае
2 лютага Грамніцы
28 лютага Попельная серада
19 сакавіка Святы праведнік Язэп
25 сакавіка Звеставанне
8 красавіка Вербная нядзеля
15 красавіка Вялікдзень Хрыстоў
22 красавіка Уваскрашэнне Божай міласэрнасці
24 траўня Узнясенне Панскае
3 чэрвеня Пяцідзесятніца
10 чэрвеня Святая Тройца
14 чэрвеня Найсвяцейшае цела і кроў Хрыста
24 чэрвеня Нарадж. Хрысціцеля Панскага Яна
29 чэрвеня Святых Пятра і Паўла
2 ліпеня Буджслаўскай Маці Божай
15 жніўня Успенне Найсвяцейшай Багародзіцы
8 верасня Нарадж. Найсвяцейшай Багародзіцы
1 лістапада усе Святыя
2 лістапада Дзяды (дзень задушны)
16 лістапада Маці Божай Вострабрамскай
8 снежня Беззаганны пачатак Найсв. Марыі Панны
25 снежня Нараджэнне Хрыстова (Каляды)

**МУСУЛЬМАНСКІЯ**

8 – 9 студзеня Ураза – байрам
28 – 29 снежня
5 сакавіка Курбан – байрам
15 чэрвеня Маўлід
26 кастрычніка Мірадж
24 снежня Лейлят аль –кадр

магчымы адхіленні ў некалькі дзён ад дат пачатку мусульманскіх свят у залежнасці ад фаз Месяца



**Заснавальнік: Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны**

Рэдактар: **Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84.
E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад 299 асобнікаў.
Надрукавана на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» г. Наваполацк.